Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



**КАМУНІКАТ Но.1 (82 ад 1999), ТРАВЕНЬ, 2004**

---

## ЗАЛАТЫ ЮБІЛЕЙ БЕЛАРУСКАЙ РЭДАКЦЫІ РАДЫЯ «ВЫЗВАЛЕНЬНЕ» - «СВАБОДА»

Сёлета, у чацьвер 20 травеня, 2004 году споўніцца 50 год ад часу, як у чацьвер 20 травеня 1954 году пайшла ў эфір першая беларуская перадача праз радыё «Вызваленьне», што пасьля было пераіменавана на радыё «Свабода».

Газэта «Бацькаўшчына» у нумары 20-21 (202-203) за нядзелю, 30 травеня 1954 году ў артыкуле «**Інаўгарацыйная беларуская перадача цераз радыястанцыю «Вызваненьне»** падае:

«У чацьвер 20 травеня сёлета (1954 г.) а 11-ай гадзіне дня адбылося ўрачыстае адкрыцьцё беларускага аддзелу радыястанцыі «Вызваленьне» ў Мюнхэне ў прысутнасьці амэрыканскага шэфа гэтага аддзелу сп. Тэрпака, Прэзыдэнта Рады БНР інж. М. Абрамчыка, прадстаўніка рэдакцыі «Бацькаўшчына» др. Ст. Станкевіча, усіх сяброў беларускае рэдакцыі радыястанцыі, др. Вінцука Жука (др. В. Жук-Грышкевіча, Р Ж-Г.), праф. Ліманоўскага, , Сымона Кабыша, і Пётыры Сыча ды іншых прадстаўнікоў беларускага аддзелу, як і іншых аддзелаў і працаўнікоў радыястанцыі. Вечарам гэтага дня адбылася супоьная вячэра, ладжаная Амэрыканскім Камітэтам для працаўнікоў беларускага аддзелу, радыястанцыі й гасьцей, што былі прысутныя на адкрыцьці, дзе ў прыемнай таварыскай атмасфэры адбылася вымена думак у справе першай і наступных беларускіх радыяперадачаў. Амэрыканскі шэф белрускага аддзеку радыя сп. Тэрпак, як і іншанацыянальныя прадстаўнікі радыя, аднагалосна падчыркнулі бліскучыя вынікі працы сяброў беларускага аддзелу, асабліва ягонага дырэктара й галоўнага рэдактара др. В. Жука (др. В. Жук-Грышкевіча. Р. Ж-Г.), і выказалі ім поўнае прызнаньне.

Падчас урачыстага адкрыцьця беларускага аддзелу радыястанцыі адбылася першая інаўгурацыйная беларуская радыяперадача, якая сваім глыбокім патрыяртычнаым зьместам і пачуцьцёвым настроем



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

пакінула глыбокае ўражаньне на прысутных.(.....) »
I далей гаворыцца, што Інаўгурацыйная

«Аўдыцыя распачалася музычным сыгналам - двукратным паўтарэньнем мэлёдыі першага радка «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» . Пасьля гэтага быў пададзены анонс наступнага зьместу: «Тут радыё «Вызваленьне». Вы слухаеце голас сваіх суродзічаў-беларусаў з вольнага сьвету». .Пасьля анонсу выступае галоснае харавое адсьпяваньне дзьвюх першых строфак зь песьні «Пагоня» ў выкананьні Лювэнскага Студэнцкага Ансамблю. Тады, спачатку на фоне прыцішанай мэлёдыі далейшых строфак гэтае песьні, а потым безь яе быў перадададзены зварот беларускага аддзелу радыёстанцыі, напісаны й сказаны ейным дырэктарам др. В. Жукам (др. В. Жук-Грышкевічам, Р. Ж-Г) да суродзічаў на Бацькаўшчыне наступнага зьместу:

«Дарагія Суродзічы! Браты Беларусы! - дзе-б Вы толькі не знаходзіліся.

З глыбокім узрушаньнем зьвяртаемся да Вас з вольнга сьвету праз радыё «Вызваленьне».

Сярод нас ёсьць тыя, што пакаштавалі справядлівасьці тройкі НКВД у часох Яжова й Цанавы, бо за адданасьць свайму краю і за любоў да свайго народу былі прызнаны «нацдэмамі, ворагамі народу»; тыя, што ўцяклі з жудасных савецкіх турмаў , канцлагераў, і масавых расстрэлаў; тыя, што ў часе апошняй вайны з лясоў Беларусі грудзьмі станавіліся супраць бальшавіцкай навалы, заліваючай наш край, але змушаныя былі ўступіць пад націскам брутальнай сілы; тыя, якім удалося прарвацца з сотняй тысяч беларусаў, захопленых савецкім войскам у Ўсходняй Прусіі у 1945 годзе і пагнаных на Ўсход, як скаціну; тыя, што пакінулі шэрагі чырвонай арміі ў часе й пасьля апошняй вайны і пайшлі на Захад, каб знайсьці там свабоду; усе тыя, якіх бацькі, браты й сёстры або загінулі з рукі савецкага ката, або церпяць яшчэ зьдзек і катаваньне ў савецкіх турмах, сьмягнуць з голаду, холаду й непасільнай працы ў нязьлічаных савецкіх лягерах; усе тыя, што дагэтуль абціраюць сьлёзы па сваіх найбліжэйштчых - бацькох, братох і сёстрах , жонках і дзяцёх.

Усе мы - дзе-б мы толькі ня былі: ці ў вольных краінах Эўропы. ці ў свабодалюбімай Амэрыцы , ці ў далёкай аўстралійскай дэмакратыі , ці ў гарачай Аргэнтыне й Бразыліі - усе мы злучаны гарачай любоўю да сваіх найбліжэйшых, да свайго краю й народу, творым адну беларускую сям'ю ў вольным дэмакратычным сьвеце. Усе мы церпім душой і сэрцам за зьдзек бальшавікоў над Вамі, Дарагія Суродзічы, і ўсім нашым краем, бо ўсе мы добра знаем, што значыць бальшавіцкае панаваньне.

Словы, якія Вы пачуеце ў нашых перадачах , будуць славамі ад нас усіх і будуць сьціраваныя да Вас усіх: і да сялян, якія адбываюць галодную савецкую паншчыну, і да работнікаў, імём, якіх гандлююць крамлёўскія дыктатары, а фактычна эксплуататацыяй высмоктваюць зь іх апошнія сілы, і да інтэлігэнцыі савецкага апарату, якой веда й здольнасьці выкарыстоўваюцца прымусова на разбудову тыраніі над народам, і да жаўнераў чырвонай арміі, якіх зьненавіджаны Крэмль штухамі змусіў абараняць тыранію перад хвалямі свабоды і імкнецца пры дапамозе тых-жа штыхоў накіныць бальшавіцкую дыктатуру на рэшту вольнага сьвету. Мы будзем прамаўляць таксама і да тых камуністых, камсамольцаў й працаўнікоў МБД, якія ў запраўднасьці стаяць з народам і вядуць скрытае змаганьне з бальшавізмам, а толькі з мусу выконваюць загады Крэмля і належаць да ўпрывіліяваных....»

Немагчыма тут перадаць усяго тэксту беларускае інаўгурацыінае аўдыцыі радыястанцыі «Вызваленьне». Увесь тэкс пададзены на бачынах 164 - 170 у кнізе «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча».

На гэтым мейсцы хочам аддаць пашану памяці тых, што змагаліся за стварэньне беларускай **нацыянальнай** рэдакцыі радыястанцыі «Вызваленьне» - «Свабода», тых, што ад вытокаў арганізавалі, пачыналі й прадаўжалі ў ёй працу змаганьня з бальшавізмам, ды кожным ворагам, які тармозіць шлях Беларусі да незалежнага дэмакратычнага, дзяржаўнага жыцьця..

З нагоды юбілею, 50-х угодкаў існаваньня й дзейнасьці беларускай рэдакцыі радыястанцыі «Вызваленьне» - «Свабода.» мы выказваем віншаваньні й найлепшыя пажаданьні на будучыню цяперашняму Кіраўніцтву і Працаўніком беларыускае рэдакцыі рады «Свабода» ў Празе Чэскай.

Мы жадаем ім спору ў працы сьціраванай да асягненьне ідэалаў АКТУ 25 САКАВІКА.

Шчасьці Божа!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ РЭДАКЦЫЯ РАДЫЁ «СВАБОДА»!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

## ПАМЯЦІ ВАЛЯНЦІНЫ ПАШКЕВІЧ

25 сакавіка 2004, перастала біцца сэрца беларускага пэдагога, грамадзкае й на ніве культуры няўтомнае дзеячкі Валянціны Пашкевіч. Усё сваё жыцьё прысьвяціла яна працы накіраванай да асягненьня ідэалаў Акту 25 САКАВІКА, і 25 сакавіка памерла.

Валянціна Пашлевіч, нарадзілася ў беларускай сям'і Міколы й Надзеі Жукоўскіх, радавітых Пружанцоў Берасьцейшчыны , 5 лютага 1916 году - у дзень сьмерці Алёйзы Пашкевіч - Цёткі.

Ад калыскі да апошняга дыханьня Валянціна была носьбітам жывое беларускае мовы. Сям'я Жукоўскіх была нацыянальна сьведамая. Бацька яе Мікола атрымоўваў зь Вільні беларускую літаратуру - календары, газэты - «Крыніцу», ды іншую пэрыёдыку. І чытаў яе для ўсяе сям'і ўголас. І сілай рэчаў ўзгадоўваў і перадаваў дзецям свой беларускі патрыятызм.

У Пружанах Валянціна закончыла польскую, бо беларускіх школ ў Пружанах ня было, пачаткавую й сярэднюю-гімназію школы. На заканчэньне сямігодкі, пачаткавае школы яна, як найлепшая вучаніца, атрымала першую ўзнагароду: том нямецка-польскага й польска-нямецкага слоўніка. Тады яна не здавала сабе справы з таго, што ейная ўзнагарода была свайго роду прароцтвам. Пачынаючы дзесь з пяцьдзесятых гадоў свайго жыцьця, яна праз 25 год пільна працавала над складаньнем ангельска-беларускага слоўніка. Але гэта ўжо пасьля ў Таронта, Канадзе.

У 1935 годзе пасьля заканчэньня гуманістычнага тыпу польскай гімназіі Адама Міцкевіча ў Пружанах , Валянціна тады Жукоўская , паступіла на факультэт клясыкі - грэкі й лаціны - мовы й культуты старажытнае Грэцыі й Рыму, унівэрсытэту Сьцяпана Батуры ў Вільні. Адразу ўключылася ў буйнае ў той час беларускае жыцьцё Вільні. Сталася сяброўкай Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні. Як сябра ўправы гэтае арганізацыі поўніла функцыю скарбніка. Наведвала лектарат беларусаведы др. Янкі Станкевіча. У Беларускім Музэі імя Івана Луцкевіча ў Вільні , калі надаралася патрэба , паўнілка функцыю праваднік..

Пасьля двох гадоў студыяў клясыкі, пераканаўшыся, што цікавыя навукі старажытных моваў і культрураў у жыцьці могуць быць непрактычнымі, бо лаціну й грэку перасталі вучыць у сярэдніх школах, яна перайшла на факультэт фізыка-матэматычны.

У верасьні 1939 году Заходнюю Беларусь акупавала савецкая Расея. Сталін адрэзаў Вільню - сэрца Беларусі - ад беларускае

нацыяналнае тэрыторыі й аддаў яе Жамойці (Жмудзі). У восені, калі беларускім студэнтам прыйшоў час ехаць на ўнівэрсытэт на навуку, Кацярына Стаўбунік, ведамая беларуская дзеячка, дзякуючы якой гэта ў Пружаншчыне, Кобрыньшчыне, Піншчыне пашыралася беларуская літаратура зь Вільні, а зь ёю й беларуская сьведамасьць, сабрала нас усіх беларускіх студэнтаў з Пружаншчыны і сказала: «Дзеці, цяпер ня час на навуку. Усім вам трэба йсьці ў школы выкладаць беларускую мову. Інакш у школаХ Пружаншчыны беларускае мовы ня будзе.». І так па адным беларускім студэнце зь Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні Кацярына Стаўбунік паслала ў школы Пружаншчыны выкладаць беларускую мову. Валянціну Жукоўскую, як найвыдатнейшую, накіравала ў былую польскую гімназію Адама Міцкевіча. І так Валянціне Жукоўскай давялося быць выкладчыцай беларускае мовы й літаратуры ў былой польскйай гімназіі Адама Міцкевіча, ў якой калісь яна сама вучылася. Апрача працы ў сярэдняй школе, яна была выкладчыцай беларускае мовы й на курсе для настаўнікаў - калісьнейшых сваіх прафэсароў . І тут яна пераканалася, як бязцэннымі аказаліся ёй студыі на філялягічным факультэце грэкі й лаціны.

Як шматлікім сябрам Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні, так і Валянціне Жукоўскай наканавана было пакінуць Беларусь. У другой палове 40-х гадоў, мінулага стагодзьдзя, яна ў Ангельскай зоне Нямеччыны ў беларускім ДП (перамешчаных асобаў) лягеры Ватэнштэце выкладае ў беларускай гімназіі фізыку й апрача таго праз некаторы час ёсьсь кіраўнічкай - Сьцяжной - беларускага жаночага скаўтынгу ў беларускім лягеры ў Ватэнштэце. Цяперашнія беларускія дзеячкі й патрыёткі за мяжой: Лёля Міхалюк, шмаыгадовая старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (заснаванага ў 1946 г.), Вера Бартуль у Нью Ёрку, Кацярына Вініцкая ў Лёс Анджылес - гэта гадунцы Валянціны Жукоўскае - вучаніцы Беларускае гімназіі й скаўткі ў беларускім лягеры Ватэнштэце.

Зь ліпеня 1949 году Валянціна ў Таронта, Канадзе. Як сяброўка Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК) на Другім Агульным Зьезьдзе гэтае арганізацыі ў травені 1950 году поўніць функцыю Сакратара Зьезду. Дакумэнтуе важную падзею першае нацыянальнае беларускае арганізацыі ў Канадзе.

У красавіку 1950 году Валянціна Жукоўская выйшла замуж за беларуса з Ашмяны Міхася Пашкевіча. Яны маюць двое дзяцей: Паўлюка й Эву і дзьве ўнучкі Ларысу й Галіну. У 50-х і 60-х гадох Валянціна Пашкевіч арганізатар і кіраўнік танцавальнага гуртка, які танцуе перадусім

«ЛЯВОНІХУ» й «Крыжачок» Танец «Лявоніху» за савецкіх часоў Валянціна вучыла танцаваць і сваіх вучняў і ў былой гімназіі Адама Міцкевіча ў Пружанах. Песьня й танец «Лявоніха» сяньня выкрэсьленыя зь гісторыі беларускае культуры, бо яна-Лявоніха як і беларуская мова, адрозьніваюць беларусаў ад расейцаў, украінцаў, палякаў, ды балтаў. Ніхто апрача беларусаў ня мае «Лявоніхі». Валянціна заўсёды была абаронцам Беларушчыны. Калі ў 1939 годзе саветы занялі Пружаны, іхнія камандзіры, палітрукі сталі хадзіць па хатах. Вось першаму камандзіру, які зайшоў у нашу хату й пачаў гутарку, зь якое вынікала, што ён белартус, Валянціна з абурэньнем і прэтэнсіяй у голасе паставіла пытаньне: «Чаму дапусьцілі да рэформы-зьнішчаня беларускае мовы?!" Рэформы 1933 году. Палітрук нічога не адказаў, толькі глядзеў шырока адчыненымі вачыма на абурэньне маладое жанчыны.

Вось жа наша «Лявоніха» ў 50-х і 60-х гадох мінулага стагодзьдзя красавала ў выкананьні Тарантонскага танцавальнага гуртка пад кіраўніцтвам Валянціны Пашкевіч. А ў 70-х гадох функцыю гэтую пераняла дачка Валянціны Эва Пашкевічанка.

Калі народжаныя ў Канадзе беларускія дзеці падрасьлі да школьнага веку, Валянціна Пашкевіч зарганізавала й праз 15 год сыстэматычна вяла беларускую суботнюю школу пры царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта. Апрацавала для сваіх вучняў «Першую чытанку пасьля лемантара для беларускіх дапаўняльных школаў». «Чытанака» выйшла друкам у Клівэлянд, у 1968 годзе. Валянціна Пашкевіч, як пэдагог, разумела, што для навучаньня беларускае мовы ў чужым асяродзьдзі абавязкова патрэбны англямоўны падручнік беларускае мовы, якога дагэтуль нідзе ня было. Над складаньнем яго Яна год за годам пільна працавала. Рэдактарам падручніка быў сьветлай памяці мовавед праф. Антон Адамовіч у Нью Ёрку. У выніку Валянціна Пашкевіч аўтар англямоўнага падручніка «БЕЛАРУСКАЯ МОВА» - "FUNDAMENTAL BYELORUSSIAN" - адзінага сыстэматычнага й найбольш поўнага курсу беларускай мовы для навучальных мэтаў за межамі Беларусі. Падручнік апіраецца на правапіс Браніслава Тарашкевіча. Як у прадмове падручніка сказана: «Кніга "Fundamental Byelorussian" - «Беларуская Мова» мае служыць ня толькі падручнікам беларускае мовы для вучняў, што прайшлі ўжо беларускі лемантар, але таксама й дапаможнікам для настаўнікаў. Дзеля гэтага некаторы граматычны матар'ял у ёй уняты крыху шырэй, як гэта трэба было-б даць толькі для вучняў. Наагул дадзены кароткі, але поўны курс беларускае фанэтыкі й марфалёгіі.».

Два тамы падручніка «Беларуская Мова» - "Funadamental Byelorussian", Кніга 1 і Кніга 2 выдаў друкам у 1974 і 1978 годзе Выдавецкі Камітэт пры Каардынацыйным Камітэце Беларусаў Канады ў Таронта.

Працуючы над англямоўным падручнікам «Беларуская Мова» , Аўтарка яго балюча адчувала неабходнасьць стварэньня ангельска-беларускага слоўніка, якога - дзеля ведамых прычтнаў, тых самых ганебных прычынаў, для якіх была праведзеная акупантам БНР у 1933 годзе рэформа беларускае мовы - у БССР ня было. Ня было такога слоўніка нідзе.

І так закончыўшы працу над падручнікам "Fundamental Byelorussian"-«Беларуская Мова», Валянціна Пашкевіч ўзялася за складаньне слоўніка. Падрыхтавала яна вялікі (каля 50 000 слоў) «Ангельска-Беларускі слоўнік», рэдагаваньням і выданьнем якога заняўся Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў ЗША. Апублікавала яна артыкул «Навучаньне беларускае мовы ў ангельска-моўным асяродзьдзі» (Запісы БІНіМ, Нью-Ёрк. 1983. Но. 17)

Пра Валянціну Пашкевіч ёсьць біяграфічная даведка ў Беларускай Энцыкляпэдыі (Мінск, 1994) Беларуская Мова.

Дзеці яе Паўлюк і Эва, калісь вучні беларускай суботняй школы, пішуць , чытаюць і размаўляюць пабеларуску.

Такая была пілігрымка жыцьця й такую пакінула Валянціна Пашкевіч спадчыну для наступных пакаленьняў. Кіраўніцтва БІНІМ у ЗША назвала Валянціну Пашкевіч «Узгадавальніцай маладога пакаленьмня.» Др. Янка Запруднік, які праводзіць рэдактарскую працу над Ангельска-Беларускім слоўнікам, падставу для якога дала Валянціна Пашкевіч, сказаў: «Слоўнік гэты будзе манумэнтам для яе».

Валянціна Пашкевіч як чалавек. «Блаславёныя міратворцы...» Валянціна з натуры зраўнаважаная ўмела ў розных абставінах ўтрымаць, ня раз з самавырачэньнем, раўнавагу й гармонію там, дзе жыцьцёвымі турбуляцыямі гармонія была нарушана. Спадарыня Вольга Грыцук сказала, што Валянціна была асобай годнай "nasladowania". Годнай быць прыкладам для іншых. Была Валянціна асобай, якую дарылі вялікай пашай й бязьмежнаю любоў'ю.

Валянціна памерла, але душа яе жыве ў кожным, чыё жыцьцё яна сваім кранула, на каго яна зрабіла ўплыў, хто быў яе вучнем, хто браў зь яе прыклад, хто шанаваў і любіў яе. Жыве яна ў кожнай справе, у якую ўкладала яна свае здольнасьці, сілы, сваю няўтомную працу, сваё сэрца й душу. Вечная Ёй памяць! А душы Яе, вечны супакой



Раіса Жук-Грышкевіч, сястра Бэры, 4 красавіка, 2004 г.

Kingston, 31. 3. 2004

Дарагая Раіса !

Выказваю мае шчыурыя спачуваньні з прычыны сьмерці сьв. памяці Валі. Баля, належала да выдатных беларускіх жанчын, Яна была мілая, ветлівая і разумная, высокага інтэлекту асоба. Вялікая патрыётка свайго Народу, выдатная настаўніца, якая аддала свой час і веду для беларускіх дзетак у школцы. Вучыла іх чытаць і пісаць па беларуску, вучыла гісторыю і нашы ідэалы, каб яны ведалі, хто яны ёсьць і адкуль мы пацходзім. Вучыла яна дэклямаваць цудоўныя вершы нашых паэтаў, ды і танцаваць вучыла нашыя народныя танцы. Яна пасьвяціла ўсё гэта для дабра і адраджэньня нашай Беларусі. Гэта была вялікая адданасьць і для беларускага грамадзтва ў Канадзе.

Валя зрабіла яшчэ больш добрага і вельмі важнага, яна напісала і выдала для дзетак школьны лемэнтар, цудоўна. Таксама праз даўжэйшы час працавала інтэнсыўна пры апрацоўцы ангельска-беларускага слоўніка.

Гэты дар Божы, які яна ў сабе мела, пакінула нам у спадчыне. І мы мусім ўсё гэта шанаваць і запісаць яе імя ў нашу гісторыю.

Вечная Ёй памяць ! Хай Канадыйская зямелька будзе Ёй пухам, а памяць пра яе жыве на доўгія годы.

Шчырыя прывітаньні й найепшыя пажаданьні для Цябе шле -

Оля й Юльянка Грыцук

P. S. У суботу памёр сьв. памяці Янка Баран, вельмі таксама сумна на душы мне. О. Г.

----- ----- -----

**Сьветлай памяці Янка Баран** быў сябрам ЗБК, дзесьці ад самых яго вытокаў. У вачох, і ўва ўсім Яго аблічы сьвяцілася дабрыня прыветлівасьць, прыхільнасьць да людзей.. Апошнім часам на вочы Яго паў і цень суму. Янка Баран быў беларускім патрыётам, руплівым сябрам ЗБК і парафіі БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта

Вечная Яму памяць. і вечны супакой.

А Дарагой Надзі, жонцы, выказваем шчырыя спачываньні

Раіса Жук-Грышкевіч

---